*В. П. ГАРМАТНЫ*

# ФРАНЦІШАК БУЯК І ЯГО ПОГЛЯДЫ НА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ АГРАРНАЙ РЭФОРМЫ Ў ІІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1921–1939)

Рассматривается жизнь и деятельность профессора Франтишка Буяка и предложенный им план осуществления во II Речи Посполитой аграрных преобразований. В 1921–1939 гг. в польском государстве обострился аграрный вопрос, остро ощущался земельный голод, необходимо было срочное проведение комплексной аграрной реформы. Отмечается, что для решения аграрной проблемы необходимо было в рамках права передать крестьянам значительную часть помещичьих земель. Обращается внимание на то, что идеи Фр. Буяка оказали огромное влияние на деятельность крестьянских партий и на разработку законодательной базы осуществления во II Речи Посполитой аграрной реформы.

*Ключевые слова*: Франтишек Буяк; сельское хозяйство; аграрная реформа.

Article tells about the life and activity of Professor Franciszek Bujak and his plan of agrarian reform in II Rzeczypospolita. In 1921–1939 in Polish country become aggravated agrarian question, hardly feel lands hunger, complexly agrarian reform was necessary. According to the Fr. Bujak for the solving of agrarian problem was necessary to pass for peasants in the law way considerable part lands of the landowners. Ideas of Fr. Bujak exert influence on the activity of peasants parties and elaborating of the legislative basis of realization in II Rzeczypospolita agrarian reform.

*Key words*: Franciszek Bujak; agriculture; agrarian reform.

На пачатак 1920-х гг. з аднаўленнем дзяржаўнай незалежнасці Польшчы перад краінай ва ўсёй вастрыні паўстаў цэлы шэраг праблем, ад вырашэння якіх мог змяніцца далейшы лёс дзяржавы. Галоўнымі з іх былі нацыянальная і аграрная, якія ўзаемаспалучаліся і цесна перапляталіся, бо адносіны сялянства Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да польскіх уладаў у многім залежалі ад вырашэння аграрнага пытання[1]. Абсалютную большасць насельніцтва (каля 2/3) ІІ Рэчы Паспалітай (міжваеннай Польшчы) на працягу ўсяго перыяду яе існавання складала сялянства[2], але ў дзяржаве ішлі даволі хуткія працэсы ўрбанізацыі і адпаведна пранікнення на вёску гарадской культуры і перадавых прамысловых дасягненняў.

Перад Першай сусветнай вайной (1914–1918) землі, якія потым увайшлі ў склад ІІ Рэчы Паспалітай, знаходзіліся пад уладай Аўстра-Венгерскай, Прускай і Расійскай імперый і таму вельмі значна адрозніваліся па ўзроўню свайго гаспадарчага патэнцыялу і культурнага развіцця, у сувязі з чым адной з галоўных мэт для польскіх улад было правядзенне аграрнай рэформы і стварэнне агульнага ўнутранага рынку[3].

У польскім грамадстве на працягу 1921–1939 гг. актыўна абмяркоўваліся разнастайныя праекты аграрнай рэформы, галоўнымі мэтамі якой было пазбаўленне перажыткаў, што перашкаджалі станаўленню ў сферы сельскай гаспадаркі капіталістычных адносін, а таксама заахвочванне сялянства ІІ Рэчы Паспалітай да сумеснай працы з уладамі на агульную карысць дзяржавы. Асаблівым аўтарытэтам сярод тэарэтыкаў аграрнай навукі Польшчы ў міжваенны перыяд карыстаўся прафесар Францішак Буяк (Franciszek Bujak), ахарактарызаваны сучаснікамі як «сялянскі сын, які дасягнуў вышынь навуковай кар'еры і застаўся пры гэтым верным сынам вёскі»[4], а сам навуковец у 1921 г. пісаў пра сябе наступнае: «Лічаць мяне за духоўнага айца (ojcec duchowy) нашай аграрнай рэформы для адных, за тварца экспрапрыяцыі, сейбіта буры і справы зла для іншых»[5]. Прафесар быў гарачым прыхільнікам ажыццяўлення ў Польшчы аграрнай рэформы, якая павінна была праводзіцца паступова з улікам як мага большай колькасці пажаданняў зацікаўленых бакоў[6].

**Францішак Буяк** (нарадзіўся 16 жніўня 1875 г. у вёсцы Машкеніцы, зараз Малапольскае ваяводства – памёр 21 сакавіка 1953 г. у Кракаве) паходзіў з сялянскай сям'і, вывучаў у 1894–1900 гг. гісторыю і права ў Ягелонскім універсітэце, дзе ў 1899 г. абараніў дактарат па гісторыі геаграфіі – першую ў гісторыі польскай навукі дысертацыю па гаспадарчай гісторыі. Выдатны гісторык і эканаміст, прафесар Ягелонскага ўніверсітэта ў 1909–1918 і 1945–1952 гг., Варшаўскага ўніверсітэта ў 1919–1921 гг., Львоўскага ўніверсітэта ў 1921–1941 гг., старшыня Польскага гістарычнага таварыства (Polskie Towarzystwo Historyczne, 1932–1934 і 1936–1937 гг.)[7]. З 23 чэрвеня па 24 ліпеня 1920 г. Буяк займаў пасаду міністра сельскай гаспадаркі і дзяржаўных маёмасцей ІІ Рэчы Паспалітай ва ўрадзе Уладзіслава Грабскага[8]. Фр. Буяк – аўтар шматлікіх тэарэтычных прац па пытанню аграрных пераўтварэнняў у польскай дзяржаве ў азначаны перыяд і заснавальнік школы гаспадарчай гісторыі, якая, па перакананню даследчыка, з'яўляецца найважнейшым чыннікам развіцця грамадства, аб чым сведчыць тая акалічнасць, што калі на пачатку сваіх навуковых даследаванняў Буяк аддзяляў гаспадарчую сферу ад грамадскай, то напрыканцы карыстаўся тэрмінам «грамадска-гаспадарчая гісторыя», падкрэсліваючы іх непарыўную сувязь[9].

Агульнае даследаванне сацыяльнай структуры сялянства і гісторыі асобных вёсак распачалося дзякуючы менавіта Фр. Буяку, які падкрэсліваў, што вёскі на абшарах Польшчы ў цэлым падобны адна да адной, у той жа час як у адной і той жа вёсцы пражываюць сяляне рознага дастатку, таму праз даследаванне асобнай вёскі можна атрымаць звесткі аб агульнай структуры тагачаснага сялянства[10], аб чым сведчаць манаграфіі даследчыка, адна з якіх прысвечана яго роднай вёсцы Машкеніцы. Прафесар Буяк быў таксама заснавальнікам выдавецтва «Wieś» («Вёска»), якое выдала да 1939 г. шмат кніг на тэматыку вядзення сельскай гаспадаркі і аграрнай эканомікі[11].

Прафесар адзначаў, што «культура народа вясковага ёсць менш або больш запозненая культура нацыянальная, захоўваючая даўнейшыя формы… гэта мінулае, якое жыве ў сучаснасці». Адначасова

Фр. Буяк падкрэсліваў розніцу паміж «культурай народа» і «народнай культурай», бо культура польскай вёскі на пачатку 1920-х гг. не была раўнацэннай народнай культуры ў разуменні традыцыйнай сялянскай культуры, якая ў гэты час магла існаваць толькі ізалявана[12].

Першая сусветная вайна ўнесла вельмі істотныя змены ў свядомасць тагачаснага насельніцтва – выклікала распад Аўстра-Венгерскай, Прускай і Расійскай імперый і хуткі ўзрост нацыянальнай свядомасці палякаў, у тым ліку і сялянства. Як адзначала адна польская сялянка з даследаваных навукоўцам тагачасных вёсак, «толькі ў 1918 г. зразумела, што (я) з'яўляюся полькай»[13]. Да галоўных характэрных рыс польскага селяніна Буяк адносіў цесную сувязь з зямлёй і прыродай, глыбокую рэлігійнасць, індывідуалізм, рэалізм, слабае гаспадарчае саперніцтва, развітую традыцыю ўзаемадапамогі, спакой, цярплівасць, не надта вялікую эмацыянальнасць пры прыроджанай дабрыні, высокі маральны ўзровень пры адначасова шыроакараспаўсюджаным п'янстве, асаблівыя адносіны да (прыватнай) уласнасці (з аднаго боку – пашана, з другога – перакананне агульнай уласнасці лясоў, ураджаю, дзікіх жывёл)[14].

Па сваіх грамадска-палітычных поглядах Фр. Буяк быў блізкі да ўплывовай тагачаснай сялянскай Польскай народнай партыі – «Пяст» (Polskie Stronnictwo Ludowe – «Piast»)[15] і ў лютым 1918 г. апублікаваў у партыйнай газеце «Пяст» («Piast») працу «Аб падзеле зямлі» («O podziale ziemi»), у якой выступаў за парцэляцыю (падзел) вялікіх памешчыцкіх маёнткаў з выкупам зямлі і адначасова заклікаў сялян дачакацца вырашэння аграрнага пытання ў рамках права[16]. Акрамя таго, Буяк адзначаў, што шлях парцэляцыі памешчыцкіх маёнткаў быў найпрасцейшым і разам з тым нечувана несправядлівым, і таму раіў сялянам ва ўмовах зямельнага голаду «замест таго, каб шукаць больш зямлі, можна таксама імкнуцца атрымаць са сваёй зямлі больш прыбытку, бо галоўнай мэтай (вядзення гаспадаркі) застаецца прыбытак»[17].

Існуючы на той час у Польшчы аграрны лад даследчык прыраўноўваў да сярэдневяковага і адзначаў, што існаванне буйных памешчыцкіх маёнткаў ужо было недапушчальна[18]. Разам з тым пад уплывам Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і актыўнай бальшавіцкай агітацыі, як пісаў Фр. Буяк, «на сялянскіх мітынгах у Каралеўстве (Польскім) і Малапольшчы распачалося ўхваленне рэзалюцый, (з дапамогай) якіх дабіваліся парцэляцыі вялікай (зямельнай) уласнасці. З пачатку 1918 г. (мясцовыя арганізацыі) сялянскіх партый у Малапольшчы і былым Каралеўстве пачалі на вёсках абвяшчаць лозунг канфіскацыі маёнткавай зямлі звыш вельмі нізка вызначанага максімуму – адны казалі аб 100 моргах, другія – больш за 300 моргаў»[19]. Як падкрэсліваў прафесар, «аграрная рэформа ў Польшчы не ёсць такая лёгкая ці простая справа, як тое задавалася б таму, хто бачыць справу толькі са сваіх ваколіц і думае толькі аб інтарэсах малазямельных сялян ці беззямельных вясковых батракоў» (гэта значыць камуністам)[20], а «польскія землі да нядаўняга часу былі часткай расійскай дзяржавы або яе суседзямі, таму былі надзвычай схільнымі да спакусы пайсці па бальшавіцкаму шляху»[21].

У 1919 г. Фр. Буяк апублікаваў кнігу «Аб накірунку зямельнага ладу Польшчы» («O naprawie ustroju rolnego w Polsce»), у якой выступіў за адтэрмінаванне аграрнай рэформы да стабілізацыі дзяржавы, адзначаў, што не можа рэформа быць «напісана на калене»[22]. Прафесар падкрэсліваў, што выпраўленне аграрных адносін можа выклікаць павелічэнне прыросту насельніцтва дзяржавы, паўсюднае развіццё сельскай гаспадаркі і прамысловасці[23], якая магла б забяспечыць працай лішнія свабодныя працоўныя сялянскія рукі, у сувязі з чым неабходна была распрацоўка комплекснай праграмы правядзення ў краіне аграрных пераўтварэнняў[24]. План Буяка быў вельмі прывабным, але цяжка ажыццявімым ва ўмовах шырокага рэвалюцыйнага руху сялянства.

У аграрным пытанні Фр. Буяк бачыў два галоўныя аспекты: гаспадарчы і грамадска-палітычны. Першы датычыў найперш за ўсё праблемы максімальнага памеру землеўладання, другі – падзелу даходу. На думку даследчыка, «барацьба за зямлю – гэта барацьба за падзел даходу з працы на зямлі паміж працуючымі і валодаючымі (ёю)… Грамадскія і гаспадарчыя памкненні і сілы павінны ў аграрнай сферы быць больш-менш згоднымі і ў раўнавазе»[25]. Буяк адзначаў, што зямля з'яўляецца не таварам, а «святой уласнасцю народа», таму для грамадства вельмі важна, у чыіх руках яна знаходзіцца. Прафесар надаваў вялікую ролю дзяржаве ў вызначэнні накірунку аграрнага ладу, падкрэсліваючы адначасова, што яе інтэрвенцыя павінна быць згоднай з натуральнымі тэндэнцыямі гаспадарчага жыцця[26].

Аналізуючы гаспадарчыя крытэрыі, Фр. Буяк адзначаў выразную перавагу дробнай сялянскай гаспадаркі[27], якая магла б лепш забяспечыць дзяржаву мяснымі і малочнымі прадуктамі, у той час як фальварак накіраваны на вытворчасць збожжа. Акрамя таго, фальварак адначасова патрабуе большых капіталаўкладанняў, чалавечай працы, штучных і натуральных угнаенняў, у сялянскай жа гаспадаркі асноўны капітал укладзены ў гаспадарчыя будынкі і інвентар[28]. Такім чынам, на думку прафесара, заможная сялянская гаспадарка ў параўнанні з фальваркавай была больш прыдатнай у тагачасных асаблівасцях сельскай гаспадаркі Польшчы.

Аб уплыве Фр. Буяка і яго меркаванняў на распрацоўку дзяржаўнымі дзеячамі аграрнага заканадаўства II Рэчы Паспалітай і значнасці працы «Аб накірунку зямельнага ладу Польшчы» сведчаць словы аднаго з лідараў іншай сялянскай партыі ПНП – «Вызваленне» (PSL – «Wyzwolenie») Станіслава Тугута (Stanisław Thugutt): «Калі ў Заканадаўчым сейме (Sejm Ustawodawczy, 1919 г.) прадстаўнікі сялянскага руху вялі ўпартыя бітвы за рэалізацыю сваёй праграмы, за выкананне сваіх памкненняў, каб павесці за сабой прадстаўнікоў інтэлігенцыі, яны мелі акрамя агітацыйных брашур, праўда ж без малага капітальную, рэвалюцыйную на тыя часы, але адзіную працу праф. Буяка»[29]. Але, па сутнасці, ні адна

з сялянскіх партый не рэалізавала праект Фр. Буяка, які адзначаў: «Тая акалічнасць, што (азначаная) мая кніга дала левым значную колькасць рэальных аргументаў (на сваю карысць), не мае вялікага значэння, бо яны мелі гатовы праект ажыццяўлення аграрнай рэформы яшчэ перад выхадам маёй кнігі і не адступілі ад яго ні на крок, бо настрой, сітуацыя ў дзяржаве і за яе межамі ўзмацнялі іх у той праграме без параўнання мацней, чым магла тое зрабіць любая кніга»[30].

15 ліпеня 1920 г. Сейм II Рэчы Паспалітай прыняў новы закон аб аграрнай рэформе «Выканаўчыя правілы да закона аб зямельнай рэформе ад 10 ліпеня 1919 г.» («Ustawa o wykonaniu reformy rolnej»), які прадугледжваў надзяленне ворнай зямлёй малазямельных і беззямельных сялян. Першынство ў набыцці зямлі надавалася інвалідам вайны, сельскагаспадарчым рабочым і малазямельным сялянам, меркавалася аказанне ім вялікай дапамогі ў форме ільготных крэдытаў на набыццё зямлі[31]. У сувязі з гэтым Фр. Буяк, адзін з сутворцаў прынятага закона, адзначаў: «Пагрозлівае становішча дзяржавы патрабавала не пазбягаць любых сродкаў, якія б узмацнілі ў арміі і насельніцтве дух трываласці і станоўчай волі перамогі. Да такіх сродкаў слушна залічаны таксама і закон аб аграрнай рэформе, што выклікала прыняцце яго ў Сейме адзінагалосна пасля кароткай справаздачнай прамовы»[32]. Разам з тым у 1921 г. прафесар указваў на неабходнасць дакладнага акрэслення часу, за які вызначаныя ўрадам памешчыцкія маёнткі павінны быць распарцэляваны (падзелены) паміж сялянамі і «перастаць быць дзічынай, на якую (з боку сялянства) ідзе паляванне»[33].

Па праблеме насаджэння на новадалучаных землях асадніцтва (перасяленцаў-каланістаў з карэннай Польшчы) Фр. Буяк у адной са сваіх кніг адзначаў, што ўся «гісторыя гаспадаркі Польшчы – гэта найперш за ўсё гісторыя асадніцтва. На працягу многіх сваіх (гістарычных) перыядаў польскі народ праводзіў унутраную каланізацыю, імкнучыся кожны раз лепш выкарыстаць атрыманыя магчымасці з мэтай паляпшэння свайго быту і прыбыткаў праз выкарыстанне лясных пустэч, ачышчэнне палёў ад камення, асушэнне вільготных нізін і г. д.»[34].

Асаблівую ўвагу Фр. Буяк надаваў камасацыі (хутарызацыі), якая мела на мэце аб'яднанне раскіданых невялікіх зямельных надзелаў і ліквідацыю такім чынам цераспалосіцы: «…не менш важнае значэнне будзе мець… камасацыя зямель. Малады селянін, які мае больш вялікія жыццёвыя патрабаванні, не будзе прагнуць задаволіць іх працай на ўдвая ці ўтрая меншым надзеле зямлі, чым у яго бацькі, і з ахвотай пагодзіцца на выплату сваёй часткі спадчыны ад брата, які застанецца на гаспадарцы. Праз камасацыю, спалучаную з рассяленнем вёскі, ствараюцца арганічныя цэласнасці, амаль што жывыя гаспадарчыя адзінкі, якія будзе шкода падзяляць уладальнікам; дзякуючы гэтаму спыніцца звычай дзялення зямлі паміж усімі дзецьмі ў роўных частках. Мела б то пазітыўны ўплыў, калі б па прыкладу швейцарскага грамадзянскага кодэкса ажыццявілася змена спадчыннага заканадаўства ў тым накірунку, каб у выпадку бестэстаментавай спадчыны атрымаць гаспадарку мог той са спадчыннікаў, хто выплаціць іншым найбольшы кошт.

***Правядзенне камасацыі ёсць непазбежная ўмова ўзросту прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі і наогул ўсяго аграрнага прагрэсу. Камасацыя павінна ісці адначасова з рассяленнем вёскі*** (на хутары)»[35].

У цэлым для аздараўлення аграрнага ладу краіны Фр. Буяк прапаноўваў наступнае: 1) ліквідаваць буйныя латыфундыі і абмежаваць памер памешчыцкіх маёнткаў да 500 га ворнай зямлі ці 1500 га лясоў; 2) падтрымліваць і часткова аднавіць праз дзяржаву фальваркавую гаспадарку; 3) павялічыць колькасць буйных сялянскіх гаспадарак; 4) значна зменшыць колькасць несамастойных сялянскіх гаспадарак у пераважна сельскагаспадарчых мясцовасцях шляхам надзялення іх зямлёй да неабходных памераў самастойнага гаспадарства[36]. Мэтай выкладзенага прафесарам плана аграрных пераўтварэнняў было стварэнне разнастайных форм сялянскіх і іншых гаспадарак, а таксама падтрымка заможнага сялянства як патэнцыяльна найбольш прадукцыйнага вытворцы, дзякуючы чаму сельская гаспадарка краіны магла развівацца хуткімі тэмпамі. Даследчык адзначаў, што правядзенне аграрнай рэформы павінна таксама садзейнічаць узнікненню натуральнай і непарыўнай сувязі паміж вялікай і дробнай зямельнай уласнасцю, чаго ў Польшчы на той час так не хапала[37].

У лістападзе 1937 г. у сувязі з трыццацігадовым юбілеем Галоўнай школы сельскай гаспадаркі (Szkoła Główna Gospodarstwa Wiejskiego, Варшава) прайшло ўрачыстае ўручэнне дыпломаў ганаровых дактароў школы, на якім Фр. Буяк выступіў з прамовай, дзе ахарактарызаваў становішча сялянства на працягу вякоў. Прафесар адзначыў, што ён сам выйшаў з вёскі, застаецца яе верным сынам і даследуе становішча і далейшыя перспектывы сучаснай яму польскай вёскі. У сваім выступленні Буяк прывёў шматлікія факты з гісторыі польскай дзяржавы і вёскі, якія сведчылі аб тым, што сялянства заўсёды было найважнейшай часткай польскага народа і пры гэтым праяўляла такія ж самыя гераічныя рысы характару, як і прадстаўнікі польскай эліты[38].

Такім чынам, прафесар Францішак Буяк быў адным з найбольш прызнаных тэарэтыкаў польскай аграрнай навукі ў 1921–1939 гг., аўтарам аднаго з найбольш распрацаваных і абгрунтаваных праектаў аграрных пераўтварэнняў, погляды якога аказалі вялікі ўплыў на распрацоўку і заканадаўчае афармленне аграрнай рэформы. Праект Буяка падтрымлівалі прадстаўнікі сялянскіх партый ПНП – «Пяст» і ПНП – «Вызваленне», у той час як з боку памешчыкаў ён жорстка крытыкаваўся. На вялікі жаль, распрацаваны Фр. Буякам праект ажыццяўлення аграрных пераўтварэнняў у II Рэчы Паспалітай так і не быў рэалізаваны на практыцы.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Burger W. Ruch ludowy wobec kwestii społeczno-ustrojowych II Rzeczypospolitej. Szczecin, 1983. S. 152.
[2] Гл.: Madajczyk Cz. Burżuazyjno-obszarnicza reforma rolna w Polsce (1918–1939). Warszawa, 1956. S. 85.
[3] Гл.: Dziedzictwo: ziemianie polscy i udział ich w życiu narodu. Kraków, 1996. S. 76.
[4] Jakubowska B. Ruch ludowy wobec przesłości narodowej (do 1939 r.). Warszawa, 1995. S. 126.
[5] Bujak Fr. Uwagi krytyczne o naszej reformie rolnej. Warszawa; Lublin; Łódź; Poznań; Kraków, 1921. S. 16.
[6] Гл.: Mieszczankowski M. Struktura agrarna Polski międzywojennej. Warszawa, 1960. S. 100.
[7] Гл.: Polskie Towarzystwo Historyczne, 1886–1986. Zbiór studiów i materiałów. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1990. S. 338.
[8] Гл.: Kto był kim w Drugiej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1994. S. 32–33.
[9] Гл.: Jakubowska B. Op. cit. S. 127.
[10] Гл.: Noniewicz Cz. Rozwój gospodarki chłopskiej. Białystok, 1996. S. 56.
[11] Гл.: Zarys historii polskiego ruchu ludowego: w 2 tomach. T. 2. 1918–1939 / Jan Borkowski et al. Warszawa, 1970. S. 529.
[12] Гл.: Jakubowska B. Op. cit. S. 129.
[13] Żarnowski J. Społeczeństwo Drugiej Rzeczypospolitej, 1918–1939. Warszawa, 1973. S. 179–180.
[14] Ibid. S. 338–339, 362–364.
[15] Гл.: Burger W. Op. cit. S. 154.
[16] Гл.: Madajczyk Cz. Op. cit. S. 101.
[17] Bujak Fr. O podziale ziemi i reformie rolnej. Warszawa, 1920. S. 52; Burger W. Op. cit. S. 154.
[18] Гл.: Wojtas A. Problematyka agrarna w polskiej myśli politycznej 1918–1948. Warszawa, 1983. S. 295.
[19] Bujak Fr. Uwagi krytyczne o naszej reformie rolnej... S. 9.
[20] Гл.: Bujak Fr. O podziale ziemi i reformie rolnej... S. 86.
[21] Ibid. S. 12.
[22] Bujak Fr. O naprawie ustroju rolnego w Polsce. Lublin; Łódź; Kraków, 1919. S. 9.
[23] Гл.: Wojtas A. Op. cit. S. 296.
[24] Гл.: Ciepielewski J. Stronnictwa i partie polityczne wobec kwestii rolnej i chłopskiej w Polsce międzywojennej. Warszawa, 1969. S. 31.
[25] Bujak Fr. O naprawie ustroju rolnego w Polsce... S. 9.
[26] Гл.: Wojtas A. Op. cit. S. 295.
[27] Гл.: Mieszczankowski M. Struktura agrarna Polski międzywojennej... S. 100.
[28] Гл.: Bujak Fr. O naprawie ustroju rolnego w Polsce... S. 77.
[29] Wojtas A. Op. cit. S. 295.
[30] Bujak Fr. Uwagi krytyczne o naszej reformie rolnej... S. 16.
[31] Гл.: Reformy rolne w Polsce międzywojennej i powojennej. Prawo-realizacja-skutki-problemy reprywatyzacyjne. Poznań, 2008. S. 25.
[32] Bujak Fr. O podziale ziemi i reformie rolnej... S. 90–91.
[33] Mich W. W obliczu wywłaszczenia. Kwestia reformy rolnej w publicystyce ziemiańskiej 1918–1939. Lublin, 2001. S. 88.
[34] Bujak Fr. Historia osadnictwa w krótkim zarysie. Warszawa, 1920. S. 5.
[35] Bujak Fr. O naprawie ustroju rolnego w Polsce... S. 151–152.
[36] Гл.: Wojtas A. Op. cit. S. 300.
[37] Гл.: Mieszczankowski M. Struktura agrarna Polski międzywojennej... S. 100.
[38] Гл.: Jakubowska B. Ruch ludowy wobec przesłości narodowej (do 1939 r.)... S. 128–129.

Паступіў у рэдакцыю 04.10.12.

***Віталь Пятровіч Гарматны*** – выкладчык кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*О. В. ЧЕБЕРЯКО*

## ПОДОХОДНО-ИМУЩЕСТВЕННЫЙ НАЛОГ КАК ИСТОЧНИК ДОХОДОВ ГОСУДАРСТВЕННОГО БЮДЖЕТА УССР В 1920-е гг.

Освещается введение советской властью подоходно-имущественного налога граждан, его место в системе прямых налогов. Раскрыт классовый принцип в определении ставок подоходного налога. Определены категории и социально-профессиональная структура налогоплательщиков, показано их долевое участие в формировании бюджета. Отмечается, что в целом налог касался каждой заработной платы, годичного дохода ремесленников, нэпманов, домовладельцев, арендаторов и др. Подавляющее большинство плательщиков подоходного налога составляли «нетрудовые элементы». Определено долевое участие в формировании денежных средств от подоходного налога государственно-кооперативного и частного секторов экономики.

*Ключевые слова*: доход; подоходно-имущественный налог; финансирование; государственный бюджет; денежные средства; плательщики; налогообложение; УССР.

In the article is known soviet power of podokhodno-property tax of citizens, his place in the system of direct taxes. Class principle is exposed in determination of rates of income-tax. Categories and socially-professional structure of taxpayers are certain, their individual share in formation of the budget is shown. On the whole a tax touched every salary, circannual profit of artisans, new economic policies, house owners, leasers and other. Swingeing majority of payers of income-tax was made by «unearned elements». Equity participation is certain in forming of monetary resources from an income-tax state-cooperative and private sectors of economy.

*Key words*: profit; podokhodno-property tax; financing; the goverment budget; money facilities; payers; taxation; Ukrainian.

История налоговой политики в УССР 1920-х гг., особенно конкретных видов налогов, включая подоходно-имущественный, остается недостаточно изученной. Налоговая система УССР в начале 1920-х гг. создавалась с целью обеспечения доходов государственного и местных бюджетов. Потому, исследуя налоговую политику, важно определить долевое участие различных социально-профессиональных групп советского общества в формировании бюджета, отличительные черты соци-